Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# ТЭР★АРМЕЕЦ

БЮЛЕТЭНЬ ПАЛІТЫЧНАГА АДДЗЕЛУ №-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ.

№ 5 Субота 21 верасьня 1929 г. № 5

## У баявой гатоунасьці

Дывізія з вялікім посьпехам скончыла свае манэўры. Цераз дзень мы прымем удзел у вялікіх беларускіх манэўрах. Дывізія ўвойдзе ў іх зусім баяздольнай са значным, вопытам баявых дзеяньняў у палявых умовах. Днёўку трэба скарыстаць, у поўнай меры дзеля таго, каб праверыць нашу гатоўнасьць. Усім трэба праверыць рыштунак, абмундзіраваньне, харчаваньне, узбраеньне.

Трэба вывучыць раён, дзе нам прыдзецца дзейнічаць.

На вялікіх манэўрах мы спатыкнемся з рознымі відамі тэхнікі. Асабліва трэба праверыць свае веды, пераглядзець разьдзелы статутаў і настаўленьняў аб мерапрыёмствах змаганьня з тэхнічнымі сродкамі барацьбы. Мы на манэўрах разгарнулі баявое спаборніцтва. У кожнай частцы маюцца дадатныя вынікі.

На днёўцы прадстаяць канфэрэнцыі па спаборніцтву, на якіх трэба абавязкова паказаць прад асобнымі чырвонаармейцамі добрыя прыклады паводзін асобных чырвонаармейцаў і разьдзелаў.

Хай шырокая чырвонаармейская маса грунтоўна ускрыўшы нашыя недахопы вучыцца на добрых прыкладах, вартых быць азначанымі.

Дывізія павінна паказаць сябе на вялікіх манэўрах у поўнай меры баяздольнай. З—Ч.

ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ НА ВАРЦЕ



Паном ня бачыць сваіх маенткау, як сваіх вушэй.

## Уваходзім у Беларускія манэуры

Дваццатага верасьня скончана першая частка манэурау —манэуры дывізыйныя.

Добры і пасьпяховы шлях прайшла яна ад пачатку збору да сучаснага моманту.

Загад, які быу дадзены камандваньнем дывізіі, часткамі выкананы. Якія-ж вынікі? А вынікі наступныя:

Чырвонаармейцы на працягу усяго часу дывізыйных манэурау паказалі вялікую вынослівасьць: ня гледзячы на тое, што кожны дзень часьці праходзілі, прыкладна, трыццаць кілёмэтрау, што ня усе чырвонаармейцы мелі бацінкі, упауне адпавядаючыя назе. У іншыя дні было і мала часу для сна. Не заусёды палуднавалі і вячэрылі у вызначаны тэрмін.

Наогул, былі цяжкія умовы, пры якіх чырвонаармейскай масай вытрымлівалася добрая дысцыплінавасьць, пры вялікай зацікауленасьці і добрым веданьні сваіх абавязкау.

Начсклад у большасьці добра кіравау сваімі часткамі і быу сапрауды прыкладам для чырвонаармейцау.

Цяпер, перад пачаткам вялікіх беларускіх манэурау неабходна кожнаму байцу і камандзіру успомніць таксама і тыя недахопы, якія былі адзначаны на штодзённых разборах, альбо якія былі зауважаны самімі. Бо вялікія беларускія манэуры патрабуюць ні у якім разе ня меншай напруджанасьці, чымся дывізійныя. Наадварот, мы павінны быць падрыхтаванымі да сустрэчы з вялікімі цяжкасьцямі. Але зараз мы маем ужо вопыт нашых манэурау, што значна дапаможа нам выканаць абавязкі на Беларускіх манэурах з ня меншымі посьпехамі, чымся былі праведзены манэуры дывізыйныя.

М. ГЕРАСІМАУ.

# На манэўрах дывізіі Мы далі лепшыя прыклады баявое вывучкі

## ПАД АГОНЬ САМАКРЫТІКІ НАШЫЯ НЕДАХОПЫ.

### Да канфэрэнцый па сац. спаборніцтву

Сацыялістычнае спаборніцтва ахапіла шырокія гушчы чырвонаармейцау дывізіі, стала лепшым мэтадам баявое вывучкі часьцей. Манэўры паказалі, як карыстацца гэтым мэтадам практычна. Есьць пэўныя дасягненьні па усіх галінах работы: узмацнілася дысцыпліна, есьць падзелы без парушэньняу дысцыпліны, паляпшаецца палітычнае абслугоуваньне чырвонаармейца, стварылася здаровае імкненьне як мага лепш выканаць баявыя задачы свае часьці. Толькі некаторыя дадатныя прыклады мы даем у сенешнім нумары «Тэрармейца»; а такіх у часьцях шмат.

Тым больш трэба выцяць усей сілаю чырвонаармейскай грамадзкасьці па недахопах. іх мы можам пазбавіцца. Япы вынікаюць ад нядбайства, ад неуважлівасьці некаторых таварышоу. Яны вынікаюць ад слабое праверкі дагавароу, пастаноу і г. д.

Канфэрэнцыі па сацспаборніцтву, што сеньня будуць у часьцях, хай выкрыюць нашы недахопы, падцягнуць адстаючых таварышоу, падцягнуць слабыя часьці. З гонарам падзелімся на канфэрэнцыях дасягненьнямі, жорсткаю самакрытыкаю выкарчуем недахопы.

### Уважлівасьць да насельніцтва

Сацыялістычнае спаборніцтва на манэўрах—важная задача. Пастановы і умову, што прынялі чырвонаармейцы № палка 2 батальёна перад адыходам на манэўры, не забыліся.

Прыходзілася наглядаць, як пасьля найвялікшых і цяжкіх пераходаў толькі два-тры таварышы прыкульгіваюць. Аднак і гэтыя адзінкі кажуць,—«таварыш камандзір, за ноч адпачнем і пойдзем як трэба!»

Прымаючы умову і выклікаючы на спаборніцтва другія часткі палку, чырвонаармейцы многа гаварылі аб тым, як трымаць сябе з акаляючым насельніцтвам.

Можна сказаць, тут самае цікавае і прыемнае, што толькі бачыш у часе манэўраў. Ня толькі на прывале, а там, на полі, у часе жорсткае схваткі з «супраціўнікам» бачыш вялікую ўважлівасьць чырвонаармейцаў да сялянскіх палеткаў. Не адзін выпадак можна было наглядаць, калі чырвонаармеец паўзком абыходзе запаханныя палеткі, каб-іх не таптаць.

Бачыш, як і самім сялянам такія адносіны чырвонаармейцаў не чаканы і прыемны.

М. Шалай.

### Грамадзкасьць супраць сымулянтау

У № палку чырвоных два чырвонаармейцы 3 раздзелу 1 кульроты пачалі скардзіцца, што ім цяжкаісьці. Захацелася ім проста пасядзець у ценку. Усе чырвонаармейцы раздзелу абурыліся такім учынкам, выкрылі іх сымуляцыю і гэтым прымусілі іх шпаркім крокам ісьці у паход. Чырвонаармейская грамадзкасьць пільна сочыць за баяздольнасьцю сваей часьці.

### Хутка акапаліся

№ полк сініх у часе наступленьня пад Камарычы прымушаны быу вельмі хутка выкапаць акопы і добра іх замаскіраваць. Байцы палка абвясьцілі сацыялістычнае спаборніцтва, каб дасягнуць лепшых вынікау. і дасягнулі—акопы выкапалі «на яць».

На разборы заняткау камандзір дывізіі паставіу гэты полк другім у прыклад.

Разгортвайце сацыялістычнае спаборніцтва так, як № полк сініх.

ДР.

### Эскадрон на манэурах

Прайшло 3 дні, як эскадрон вядзе работу на манэўрах. Маюцца практычныя вынікі дзеяньняў эскадрона ў парадку сацыялістычнага спаборніцтва.

Байцы праяўляюць вялікую цікавасьць, актыўнасьць у рабоце разьездаў і выведнае службы. Нягледзячы на тое, што работа працякае амаль бязупынна ў рухавай абстаноўцы, настрой байцоў бадзёры. Дысцыпліна сьвядома падтрымліваецца ўсімі чырвонаармейцамі.

Да конскага складу і рыштунку чырвонаармейцы праяўляюць вялікую клапатлівасьць і сьцеражлівасьць, нягледзячы на вялікія пераходы і цяжкасьці работы (наяўнасьць вялікага проценту сялянскіх коней, няма ніводнага ня бітага каня).

Узаемаадносіны байцоў з насельніцтвам ветлівыя і лагодныя.

Наш эскадрон на нядаўна адбыўшыхся манэўрах у парадку сацыялістычнага спаборніцтва з № дыв. атрадам ужо давёў сваю баявую вывучку і зараз прадаўжае свой шлях да новых посьпехаў умацненьня баяздольнасьці эскадрону.

Вайскор САЛАУЕУ.



# Дысцыпліна і бадзерасьць—залог перамогі

## Палявы статут пра адпачынак часьцей

Палявы статут 1929 года патрабуе, каб распалажэньне часьцей на адпачынак адпавядала наступным умовам:

1. Забясьпечыць добрае распалажэньне і харчаваньне.

2. Даць магчымасьць хутка перайсьці да паходнага і баявога парадку.

3. Схаваць часьці ад паветранай выведкі супраціуніка.

Трэба на днеуках асабліва захоуваць военную таемнасьць.

Ня можна гутарыць з насельніцтвам, ці у прысутнасьці не вайсковых, пра склад, колькасьць і задачы часьцей. Ня можна пісаць назвы часьцей на варотах ды на плотах

За захоуваньнем ваеннай таемнасьці павінны сачыць усе байцы часьці

Адпачынак павінен быць скарыстаны для культурнай і палітычнай работы сярод чырвонаармейцау.

## З добрай падрыхтоукаю.

Наказ на атаку атрыманы. І камандзір 5 роты чырвоных хутка кінуў роту на гура. Але курганы на правым крыле сініх моцна узброены, хутка да іх пя дабяжыш, можна шмат згубіць байцоў.

Гэта улічылі чырвонаармейцы кулямётнага адзяленьня 4 роты. Абгаварваючы наступленьне сваёй суседкі, яны як адзін дайшлі да рашэньня, што атакуючых завернуць назад.

Хутка так і здарылася, кулямётчыкі правідлова ацанілі абставіны бою.

Гэта сьвечыць аб актыўным удзеле нашага чырвонаармейца ў баявой падрыхтоўцы часьцей і аб яго войсковым кругаглядзе.

БАЧЫУШЫ.

„АКАЗНАСЬЦЬ ЗА ВЫПАУНЕНЬНЕ БАЯВОЙ ЗАДАЧЫ ЛАЖЫЦЦА ЯК НА КАМАНДЗІРА, ГЭТАК І НА КОЖНАГА РАДАВОГА БАЙЦА."

## Малайцы сувязісты

Рота сувязі дывізіі давала безадказную сувязь увесь дзень манэурау 20 верасьня.

Яны-ж арганізоуваюць добрую дастауку газэт.

Хвала сувязістам ва добрую працу. Трэба, каб на Беларускіх манэурах працавалі яшчэ лепш! Р.



## Баявая прыкладнасьць выратавала полк

У тыл сініх выйшаў батальён палка чырвоных, погражаючы атакаю усяму палку сініх. Палажэньне было вельмі небясьпечным, патрэбна было вялікае напруджаньне сілаў, каб ухіліць удар. Выручыла 3 рота № палка.

Камандзір батальену Сьцепанаў, камісар палка Дракахруст сваім прыкладам уцягнулі роту у хуткае разьвінаньне і атаку. Ня стрымаўся і старшыня РВК, што прыехаў наведаць свой батальён, і ён кінуўся у атаку разам з ротаю. Праз гэта рота выратавала полк

Вайскор.

## Вынік спаборніцтва

(Дывізійная хлебапякарня)

Чыр-цы хлебапякарні мелі кароткі час для сваей падрыхтоўкі, але-ж заданьне на дзенную выпечку выконваюць добра. Працуюць па 13 гадзін, а хлеб на манэуры пастауляюць. На гэтым хлебапекарня ня спынілася. Праз сацыялістычнае спаборніцтва дабіліся павялічэньня выпечкі хлеба на 150 гудоу і палепшаньня якасьці

Старасотнікау.

Посьпех бою пяхоты залежыць ад умелага ужываньня ею руху агню і іх злучанага манэўра.

## Заплюшчыушы вочы

Прэцца група сувязістых, цягне тэлефон, ды яшчэ як шчыра, проста да „супраціўніка", у роту сініх.

Паставілі яны апарат і толькі пачалі званіць, як іх зараз-жа ўзялі ў палон.

Камандзір роты сініх перадае начальніку штаба чырвоных, што на баку сініх шмат і кулямётаў і пяхоты і гармат.

Праз паўгадзіны ідуць з боку чырвоных правяраць лінію і міжтым праходзяць між двох настаўленых на іх кулямётаў, аж на пункт сініх. А таварыш Бонік дык нават прышоў бяз стрэльбы і шынэлі; ен іх дзесьці заставіў на лініі, і на запытаньне адказаў, што яму цяжка несьці стрэльбу.

Праз некалькі хвілін прышоў сам у палон сувязіст т. Дзехцяроў.

У той-жа час на другім вучастку фронта прыцягнула лінію на бок сініх адзяленьне сувязі 1 батальену №-ска а палка. Як відаць сувязістыя працавалі абы як, лезьлі заплюшчыушы вочы няма ведама куды.

ВЫВЕДЧЫК.

## Разумна скарыстоувайце прывал

Ня глядзячы па шэраг загад, завайстрэньне пытаньня аб неабходнасьці на малых прывалах падымаць ногі (аб гэтым есьць загад Рэвваенсавету) гэтае мерапрыемства амаль не праводзілася у нас,

На жаль, партыйнай і камсамольскай арганізацыямі зроблена у гэтым кірунку надта мала.

Пакуль ня позна — трэба безадкладна выправіць гэты нс дахоп.

С-У

## РЭДАКЦЫЯ АДКАЗВАЕ

**Вайскору Салауеву:** Адказ на вашую заметку чытайце ў гэтым № 5 „Тэрармейца".

**Ельгіну:** Ваш артыкул накіраваны пракурору.

**Бахаyоускаму:** Ваш артыкул перададзен камісару дывізіі.

Артылерыя, уладаючы найболей магутнаю агнявою сілаю, дае пяхоце заўседную і самую рашучую дапамогу, узмацняючы і дапаўняючы яе агонь.

## Тактычная памылка

У залежнасьці ад віду боя, артылерыя абірае пазіцыі закрытыя, на палову-закрытыя і адкрытыя. Самая лепшая пазіцыя гэта замаскіраваная ад паветранага супраціуніка, закрытая.

Асабліва вялікае значэньне закрытая пазіцыя мае у абороне.

Калі батарэя будзе выкрыта супраціунікам, дык той зьнішчыць яе.

Ня гледзячы на гэта, 11 верасьня 1-ая батарэя абрала напалову-закрытую пазіцыю і пры першым-жа стрэле вялікі слуп дыму выкрыу батарэю.

А між тым памкамартдыв раіу камандзіру батарэі зьмяніць пазіцыю. 2 батарэя стаяла на закрытай пазіцыі і нікал-б яе супраціунік не прыкмеціу. Час ужо сурезна, абіраць пазіцыі па правілах артылерыйскай тактыкі

АРТЫЛЕРЫСТ.

## «Каб разьмяць ногі»..

Камандзір 2-ой пульроты на пытаньне палітпасярэдніка «ці не заучас узьнята была сеньня рота»? адказау:

—Бачыце, рота была сеньня узьнята дзеля таго, каб чырвонаармейцы паразьмялі ногі да паходу, каб у паходзе меней было пацертасьцяу.

«Арыгінальная» трэніроука, няма чаго казаць!

Б.

## ПАПРАУКА

У № 4 „Тэрармейца" укралася памылка ў лезунгу Ул. І. Леніна, які зьмешчаны на 1-ай старонцы Надрукавана: „зараз супраць нас падняўся воляй культурнага" і г. д. павінна быць: „зараз супраць нас падняўся волат культурнага", і г. д.

## Пра «Чырвонага куляметчыка»

Ячэйка 3-я кульроты № палка выдае газэту «Чырвоны куляметчык». Рэдакцыя гэтай газэты просіць даць ей ацэнку. Трэба вітаць спробу выдаваць у роце шматтыражку; добра прыдуманы чырвоная і чорная дошкі; добра дадзена пра лепшых байцоу і пра недахопы у роце.

Але-ж ня умела змагаецца «Чырвоны куляметчык» з антысэмітызмам. Напісана «хіба-ж яны (яурэі) вінаваты, што яны яурэі». Выходзіць, што яурэі нешто такое недарэчнае, толькі яны у гэтым ня віноваты. Хіба-ж так? Ды хіба так трэ(-бі)ць на антысэмітызму. Антысэмітызм у арміі есьць самая горшая праява кулацкіх настрояу, есьць спроба клясавага ворага зрабіць вылазку супроць нас, разарваць моцны саюз працоуных усіх нацыянальнасьцяу у СССР. Нацыянальную варожасьць зауджы сеяла і сее буржуазія, каб на гэтай варожасьці замацаваць свае панаваньне. і ня трэба даваць палец гэтаму ворагу, каб не не адкусіць усю руку. Сваім допісам у газэце вы гэта робіце

А. САМАХВАЛАУ.

## АД РЭДАКЦЫІ

У склад камісіі па правядзеньні спаборніцтва-конкурсу сярод частак дывізіі ад кавалерыйскага эскадрону прызначаны чырвонаармеец т. Балотнікаў.

Ня было зьмешчана у № 3 „Тэрармейца" з-за недагляду рэдакцыі

Асноўная задача палітработы ў РСЧА—узмацаваньне баяздольнасьці Чырвонае арміі, як узброенае апоры пролетарскае дыктатуры.

# У ГОНАР ЧЫРВОНАЙ АРМІІ СЯЛЯНЕ АРГАНІЗОУВАЮЦЬ ЧЫРВОНЫЯ АБОЗЫ, АДКАЖАМ ДОБРЫМ ПРАВЯДЗЕНЬНЕМ БЕЛАРУСКІХ МАНЭУРАУ

## Арганізуем чырвоныя абозы

У гонар манэурау нашае дывізіі веска Ліпаука арганізуе чырвоны абоз хлеба.

Заўседы супраць чырвоных абозау выступаюць кулакі і іх прыхваснi падкулачнікі, яны ня жа даюць здаваць хлеб дзяржаве, лепш пачакаць да вясны, тады можна будзе якого небудзь бедняка прымусіць за пазычаны пуд хлеба працаваць на сябе.

Самы рашучы адпор яны атрымліваюць, і павінны атрымліваць на далей, ад беднаты і серадняцтва. Маецца шмат выпадкау, калі бедната і серадняцтва абвяшчаюць байкот гэткім як тэй, што намаляваны з правага боку.

У працы па арганізацыі чырвоных хлебных абозау у летку значны удзел прыймаюць чырвонаар-цы, яны у сваіх лістох да бацькоу, крэўных, таварышоу, растлумачвалі неабходнасьць здаваць хлеб толькі дзяржаве.

„Дзяржава—піша адзін чырвонаармеец—аддае усе, што можа на перабудову вескі, на паляпшэньне яе дабрабыту; ты бацька павінен ей дапамагчы, чым можаш, лішак хлеба перадай толькі дзяржаве".

Шмат тэрармейцау арганізоувалі чырвоныя хлебныя абозы у сваіх весках, куды уцягвалі усе беднацка-серадняцкія колы вескі.

У гэтым годзе мы не павінны адстаць, трэба добра прадумаць кожнаму тэрармейцу, што ен зрабіу, што ен яшчэ можа зрабіць для таго, каб арганізаваць чырвоны абоз з сялян сваей вескі.




Мы лічым, што не адзін, а дзесяткі, сотні абозау змогуць арганізаваць і арганізуюць байцы №-й дывізіі.

Р. І—К

## У гонар Чырв. арміі

Сяляне вескі Ліпаўка пастанавілі арганізаваць у гонар прыбыцьця частак Чырвонай арміі у іх веску чырвоны абоз з хлебам.

Пасьля караценькага мітынгу, на якім прынялі гэтую пастанову, ішла кінофільма, на якую сабралася шмат сялян, маладых і старых. Старэнькі дзядуля, з якім мне давялося гаварыць на гэтую тэму, казау: „вось дык Чырвоная армія; каб не яна пэуна—так і памер-бы, ня ведаючы, што такое кіно".

Веска, у якую маюць прыбыць часткі Чырвонай арміі, выглядае неяк сьвяточна.

Вёска сустракае чырвоных байцоу з гонарам і радасьцю. Дзеці выносяць кветкі, дарослыя—падарункі.

Ці ёсьць дзе па сьвеце такая армія, якую-б так шанавалі і любілі працоуныя, як нашу Чырвоную?

З. Р.

## Сяляне зацікаваліся

Пад'яжджаю да сопкі, ахопленай з 2-х бакоу маленькімі узгоркамі і ляском...

Што гэта? На сопцы нейкія незнаемыя людзі, апранутыя не па чырвонаармейску. Даведваюся, што гэта сяляне вескі Лудчыца.

Як было відаць, яны вельмі цікаваліся сучаснай тактыкай боя; запытаньні да камандзіра сыпаліся проста градам.

Прысутнічаушыя выказалі здавальненьне дасягненьнямі Чырвонай арміі і асабліва тым, што гэта нашыя, беларускія, часьці так прыкладна вучацца змагацца за справу рабочай клясы і працоунага сялянства.

Ячэйкам Тса-Авіяхіму есьць над чым папрацаваць, каб зацікауленасьць сялян да вайсковай справы замацаваць арганізацыйна.

СЕРАНЬКОУ.

## Каб больш так ня было

Прайшло паўтары гадзіны як скончыуся бой.

Усім быу адбой, акрамя камандзіра раздзелу 2 роты № палка і трох чырвонаармейцау. Для іх толькі, як відаць, распачаліся дзеяньні. ідуць яны між яблынь па саду, камандзір крыху прыгнуушыся, а за ім—паузуць тры чырвонаармейцы і падбіраюць яблыкі.

Калі у іх запыталіся што яны тут робяць, усе спыніліся, а камандзір адказау—«вядзем выведку».

Гэта выведка была не супраціуніка, а яблык.

Ня раім нікому так рабіць. Хоць факт дробны, але ен псуе адносіны з насельніцтвам і падрывае аутарытэт Чырв. арміі у вачох працоуных сялян.

Н.

## ЧАМУ ГАЗЭТЫ НЕ ТРАПЛЯЮЦЬ ДА БАЙЦОУ.

На разборы заняткау шмат пасярэднікау зазначалі, што газэты не даходзяць да байцоу. Рота сувязі дасылае газэты у часьці з Магілеву своечасова. А у палкох іх затрымліваюць. Так было у № стр. палку, так было у артпалку.

Палітапаратам палкоу трэба мець клопат пра дастауку газэт. Вінных у іх недастауцы да байцоу прыцягваць да адказнасьці.

№-скі.

## III-я ПАЗЫКА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ

Большасьць чырвонаармейцау гаспадарчай роты №-га палку значэньне 3-й пазыкі індустрыялізацыі уцяміла.

Кадравы склад роты падпісауся поунасьцью. Чырвонаармейцы пер складу таксама падпісаліся (37 працантау агульнага складу роты). Усяго рота падпісалася на 1470 руб. У далейшым неабходна разгарнуць сярод непадпісаушыхся спаборніцтва па падпісцы. Неабходна выклікаць вёскі і сельсаветы.

У кожнай хаце чырвонаармейца перскладу павінна быць 5 рублевая пазыка! С.

## РУБЛЕМ ПА ВОРАГУ




Пазычаючы дзяржаве свае працауныя рублі, мы забясьпечваем пасьпяховасьць нашага сацыялістычнага будауніцтва, узмацняем вытворчую змычку города з вёскай і абароназдольнасьць краіны.

## Пісьменьнікі на манэурах

На нашых дывізыйных манэўрах присутнічаюць сябры Беларускае Асацыяцыі Пралетарскіх Пісьменьнікаў—Пятрусь Броўка, Юрка Лявонны і Макар Шалай, а таксама сябра польскае сэкцыі БелАПП'а Зінові Рымашэўскі.

Пісьменьнікі зьяўляюцца спэцыяльнымі карэспандэнтамі газэт; аднычасова, яны вывучаюць быт чырвонаармейца на паходзе, баявую абстаноўку і паасобных тыпаў з мэтай адлюстраваньня ўсяго гэтага ў сваей творчасьці.

У гэтым № „Тэрармейца" мы друкуем матар'ялы памяненых таварышоу.

Чырвонаармейская грамадзкасьць спадзяецца, што шчыльная сувязь пралетарскіх пісьменьнікаў з Чырвонай арміяй на далей будзе яшчэ больш узмацняцца пад сьцягам барацьбы за пралетарскую культуру, за сацыялістычнае будаўніцтва.

## НА ПРЫВАЛЕ

(МАЛЮНАК)

Вечарам 18-га верасьня чырвоныя байцы 2-го батальёну № стр палка спыніліся ў вёсцы Мокрая

Час не прайшоў дарэмна. Чырвонаармейцы хоць і замарнаваліся за дзень і ранейшыя дні, бо як не кажы, манэўры—цяжкі і адказны экзамен,—таўпіліся на невялічкай пляцоўцы вёскі. Тут і сяляне. Кіно. З цікавасьцю глядзяць карціну. Потым выступленьні аматарау-чырвонаармейцеў.

Размовы аб чырвоным абозе, міжнародным становішчы і інш. Дзесьці з застрэшша падае свае музыку радыё.

Парапынак. Грае духавы аркэстр. Дзіўна ды і годзе! Чырвонаармейцы скачуць. Каб гэта так, абыдзёна—дык штэ, а то столькі находзяцца, набегаюцца за дзень, часам недасьпяць і тут такая бадзёрасьць!

Моцны, вялікі, бадзёры наш чырвонаармеец!

Сяляне, жанчыны, дзяўчаты прымаюць таксама удзел.

Бо чаго-ж? гэта ня тыя салдаты ад якіх уцякалі, гэта ня тыя, што бізуны свае мачылі ў крыві па загаду цара. Гэта свае, нашы. Тут нават знаёмыя есьць. Яны перамяньнікі—прышлі ў сваю веску. Разам гаворыць са ўсімі, як чырвоны абоз накіраваць у раён.

Дзесьці ў канцы пранеслася песьня ў поле: буйная, бурлівая, моцная...

Ноч паразьвесіла скрыдлы на гумны, на хаты, на агароды... Ад нязвычнага брэшуць сабакі.

Канец. Разьвітальныя погляды. Кожны на месцы, каб заўтра—зноў у паход.

Толькі вартавыя ходзяць па вуліцы ды ў штабе палка і батальёну агонь.

П. БРОУКА.

## «ВАЕНІЗАТАРЫ»

(ВЯСКОВЫЯ ЧАСТУШКІ)

Наш сівы Ахрэмка Рабцау
Знае новы пілатаж:
Уначы з палацяу раптам
Утварыу круты „віраж"!

Авіацыю ня проста
Ведау дзядзька наш Хвядот:
На калесах ехау мостам,
Праваліуся, сеу у „капот"!

Знае хэмію Цімошка—
Гэткіх нам не адшукаць:
З п'янкі моцнае—лукошка
Ураз „апырскау" ен на яць!

Быу баямі зацікаулен
Ездавы Нічыпар Грайка;
На манэураХ уцякау ен
З Косічау на Стайкі.

Каля Дашкаукі у баех
Вызначыуся Янка:
На палянцы мяккай лёг
і заснуу да ранку.

У іх „адвагі"—поуны жмені:
Гонар, пая і лескат!
...Гэткіх „спэцау" як паменей
Трэба нам у веску...

ЮРКА Л—НЫ.

## Чырвонаармейскі „пытаньнік"

Пытаньне:

Як забясьпечыць непарыунасьць палітработы у бойцы?

Адказ:

Скласьці плян палітработы, разьлічыушы час па сэкундах, а потым пакласьці яго у кішэнь, пайсьці на назіральны пункт і легчы спаць.

Пытаньне:

Як зрабіць, каб піць ваду і не сапсаваць кіндзюк?

Адказ:

Так, як робяць у № стр. палку. Атрымаўшы таблеткі, іх глытаюць сухімі, а потым заліваюць ванючай вадой.

Пытаньне:

Як трымаць сябе у пярэднім краі абараняючайся паласы?

Адказ;

Вырыць акопы, палажыць у іх стрэльбы,а самім адыйсьці ад іх на 10 сажняу назад, як гэта зрабіла эддзяленьне 4-ай роты № стр. палка.

Пытаньне:

Як аслабаніцца ад нарадау і работы?

Адказ:

А вось, як робяць некаторыя чырвонаармейцы Упраудзіва: як толькі прыходзяць у веску—на шпаркую руку абедаюць і накіроуваюцца без дазволу на вечарынку.

## «МАСКІРОУКА».

Т. М. Чаму вы да супраціуніка павярнуліся сьпіной?

Каб ен мяне не спазнау у твары.

## АБ'ЯВА.

Экспэдыцыя роты сувязі дывізіі прадае паштовыя карткі і маркі. Там-жа можна здаваць усю паштовую карэспандэнцыю.

Адказны рэдактар — А. САМАХВАЛАУ

Акрліт № 418-д